ЦАНА 15 кап.



1-шы год выдання

# БЮЛЕТЭНЬ



## Народнага Камісарыята Асветы БССР

*Менск, 1 красавіка 1935 года* **№ 5**



ЗМЕСТ

Стар.

**Пастанова Совета Народных Камісараў БССР**

1. Аб палепшанні харчавання і матэрыяльна-бытавога становішча студэнцтва . . . . . . . . . . 2

**Загад па Народнаму Камісарыяту Асветы**

2. Аб выхаваўчай рабоце . . . . . 4

**Па ўправленню падрыхтоўкі настаўнікаў**

3. Палажэнне аб парадку адкамандыравання настаўнікаў, якія займаюцца без адрыву ад вытворчасці, у стацыянарныя педагагічныя навучальныя ўстановы . . . 9

**Па аддзелу школ дарослых**

4. Аб ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці сярод дапрызыўнікаў 1913 і 1914 г г. нараджэння . . . . . . . . . . . . 10

**Па Бібліятэчнаму ўпраўленню**

5. Аб становішчы бібліятэчнай работы ў Крупскім раёне . . . . 12
6. Умовы конкурса бібліятэк . . . 13

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

МЕНСК—1935

# ПАСТАНОВА № 1980

## Совета народных камісараў БССР

Менск, 4/XII-34 г.

### Аб палепшанні харчавання і матэрыяльна-бытавога становішча студэнцтва

Совет народных камісараў БССР адзначае, што:

а) не гледзячы на рашэнні партыі і ўрада аб палепшанні грамадскага харчавання студэнцтва, выдзяленні спецыяльных фондаў і бесперабойным забеспячэнні студэнцкіх сталовак прадуктамі харчавання па цэнтралізаванаму забеспячэнню, становішча грамадскага харчавання студэнтаў БССР застаецца нездавальняючым. Каларыйнасць студэнцкіх абедаў па значнай частцы ВНУ і тэхнікумаў (БДУ, Мединстытут, Індустрыяльна-педагагічны тэхнікум) недапушчальна нізкая (500—600 калорый).

Гэта з'яўляецца вынікам нядбайных адносін да матэрыяльна-бытавых запатрабаванняў студэнцтва з боку часткі дырэктароў навучальных устаноў, каапераціі і снабжаючых арганізацый, не забяспечваючых харчаванне студэнтаў прадуктамі па вызначаных нормах, а на працягу верасня—кастрычніка зусім не адпускаюцца тлушчы (масла, маргарын), цукар і недавыдана значная колькасць мяса. Работнікі ў студэнцкіх сталоўках (загадчыкі і павары) у большасці не адпавядаюць свайму прызначэнню, часта мяняюцца. Зусім слаба і без прыцягнення студэнцкай грамадскасці вядзецца барацьба з крадзяжом і расцягваннем прадуктаў харчавання;

б) па большасці навучальных устаноў не разгорнуты цэнтралізаваныя загатоўкі, адсутнічаюць строга вызначаныя базы для гэтых загатовак і транспартныя сродкі. Надзвычайна дрэнна пастаўлена справа з адкормачнымі пунктамі (апрача Інстытута народнай гаспадаркі, ВПІ і Гомельскага педінстытута);

в) студэнцкія інтэрнаты знаходзяцца ў нездавальняючым становішчы і не забяспечваюць культурных запатрабаванняў студэнцтва; інтэрнаты перагружаны, адсутнічаюць у частцы інтэрнатаў пасцельныя прылады (коўдры, простыні, наўлечкі), нехапае патрэбнага абсталявання для інтэрнатаў (тумбачкі, вешалкі, бакі з пераваранай вадой, графіны, шклянкі, шчоткі для падлогі), адсутнічае кантроль за інтэрнатамі з боку дырэктароў, безадказныя адносіны камендантаў, зусім слабая работа студэнцкай грамадскасці ў інтэрнатах. Часта самі студэнсы парушаюць парадак у інтэрнатах мыццём бялізны, загружаюць уласнымі рэчамі і часта адносяцца халатна і безадказна да мэблі і інш.

Гэтае становішча можа пагоршыцца з наступам халадоў яшчэ і тым, што амаль усе інтэрнаты з прычыны злачынна-халатных адносін з боку гартопаў не забяспечаны дровамі.

Совет народных камісараў БССР **пастанаўляе:**

1. Абавязаць Белкаапсаюз (т. Баскіна), НК. Унутранага гнадлю (т. Гурэвіча) і дырэктароў навучальных устаноў ліквідаваць адзначаныя недахопы і забяспечыць значнае палеп-

шанне студэнцкага харчавання, для чаго:

а) абавязаць тт. Гурэвіча і Баскіна, пад іх персанальную адказнасць, бесперабойна забяспечваць студэнцкія сталоўкі пад існуючых нормах прадуглежаных па цэнтралізаванаму забеспячэнню і ліквідаваць запазычанасць сталовак па мясу, цукру і тлушчам. Даручыць пракурору рэспублікі т. Кузміну прыцягваць да суровай адказнасці тых, якія зрываюць планавае забеспячэнне студэнцкіх сталовак;

б) абавязаць уп. Камітэта загатовак выдзеліць навучальным установам глубінныя пункты для цэнтралізаваных загатовак;

в) дырэктарам навучальных устаноў і наркаматам распрацаваць план разгортвання прыгарадных гаспадарак і адкормачных пунктаў. У плане 1935 г. прадугледзець неабходныя асігнаванні як па будаўніцтву, так і па зваротных сродках гэтых гаспадарак;

г) абавязаць Белкаапсаюз і дырэктароў навучальных устаноў узмацніць кадрамі сетку грамадскага харчавання студэнтаў (загадчыкамі сталовак, паварамі), забяспечыць гігіенічнае і культурнае ўтрыманне сталовак;

д) абавязаць Менхарчгандаль наладзіць работу буфетаў у асноўных корпусах ВНУ.

2 Абавязаць дырэктароў навучальных устаноў устанавіць належны распарадак у інтэрнатах, забяспечваючы культурнае гігіенічнае ўтрыманне іх (мыццё падлогі, бялізны), ведучы рашучую барацьбу з парушыцелямі ўстаноўленага распарадку.

Даручыць НК Унутранага гандлю выдзеліць у IV квартале 1934 г. і ў 1-м квартале 1935 г. матэрыял для простынь, коўдраў і наўлачак для студэнцкіх інтэрнатаў.

3. Даручыць НК Фінансаў дадаткова ў IV квартале адпусціць сродкі ВНУ на набыццё пасцельных прыладаў, мэблі для інтэрнатаў (тумбачак, стулляў графінаў, чайнікаў і інш.), а наркаматам даць адпаведныя заяўкі.

4. Пад персанальную адказнасчь старшынь горсоветаў і РВК забяспечыць студэнцкія сталоўкі палівам і папярэдзіць іх што перабоі ў паліве пацягнуць за сабой перабоі і ў харчаванні, за што вінаватыя будуць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці.

Абавязаць Менскі гартоп да 20 снежня вывесці 50 проц. дроў інстытутам для студэнцкіх інтэрнатаў. Белдзяржтрансу (т. Хмель) выдзеліць аўтамашыны для падвозкі дроў у інтэрнаты і сталоўкі.

5. Абавязаць наркаматы выдзеліць з фондаў IV квартала для ВНУ патрэбныя будматэрыялы для канчатковага прывядзення ў парадак інтэрнатаў.

6. Абавязаць дырэктароў навучальных устаноў забяспечыць культурнае абслугоўванне студэнтаў (тэатры, кіно, бані, пральні, выпіска газет). Менскаму горсовету пралажыць тратуары па студэнцкай вуліцы ў г. Менску.

7. У сувязі з тым, што фабрыку-кухню мяркуецца загрузіць у асноўным за лік студэнцкіх кантынгентаў, устанавіць, што пера вод асобных ВНУ для харчавання ў фабрыку-кухню вырашаецца СНК у залежнасці ад становішча харчовай базы гэтых ВНУ.

8. Даручыць НК Фінансаў дадаткова асігнаваць ВНУ і тэхнікумам сродкі на аплату кватэр студэнтаў, незабяспечаных інтэрнатамі.

9 Абавязаць наркаматы з вы-

лучаемых фондаў у першую чаргу забяспечыць будаўнічымі матэрыяламі новастройкі ВНУ і тэхнікумаў.

10. Прымаючы пад увагу, што Высачанскі, Крычаўскі, Лепельскі, Мсціслаўскі, Рагачоўскі і Слуцкі педтэхнікумы і Дубровенскі, Чашніцкі, Негарэльскі і Дзяржынскі педрабфакі не атрымоўваюць у цэнтралізаваным парадку ніякіх прадуктаў харчавання, апрача хлеба, прапанаваць НКГандлю ўключыць паказаныя навучальныя ўстановы ў цэнтралізаванае забеспячэнне нараўне з іншымі адпаведнымі кантынгентамі.

*Нам. старшыні СНК БССР*
*А. Саак'ян.*

*Кіраўнік СНК БССР*
*С. Шабалтас.*

---

# ЗАГАД

## Па народнаму камісарыяту асветы БССР.

**Менск, 28/XII 1934 г.**

### Аб выхаваўчай рабоце

Адказнейшая справа комуністычнага выхавання дзяцей, даручаная партыяй і ўрадам настаўніцтву нашай совецкай школы, патрабуе чоткай комуністычнай накіраванасці па ўсіх лініях і ўчастках школьнай работы.

Выконваючы важнейшую задачу ліквідацыі карэннага недахопу і ўздымаючы на належную вышыню якасць ведаў асноў навук, школа павінна праз вучобу паслядоўна ажыццяўляць справу комуністычнага выхавання.

Разам з гэтым школа павінна, у гэтых жа мэтах узмацнення комуністычнага выхавання і рашучага адпору ўсякім класава варожым спробам прывіцця вучням элементаў антыпролетарскай ідэалогіі, шырока разгарнуць планавую і сістэматычную пазашкольную работу, у прыватнасці работу па ўнядрэнню свядомай дысцыпліны.

Адзначаю, што ў 1934-35 навучальным годзе мы маем палепшанне якасці пастаноўкі вучэбна-выхаваўчай работы ў школах БССР.

Рад школ (13, 4, 25, 7 Менская, 22 Віцебская, з Гомельская, Урэцкая, Белдрэсаўская) паказалі прыклад высокаякаснай вучобы і выхаваўчай работы. У гэтых школах, як і ў радзе іншых, ёсць добрая паспяховасць па асноўных дысцыплінах, дысцыплінаванасць вучняў належная, барацьба за выкаванне рэжыма, здавальняючая пастаноўка інтэрнацыянальнай работы, шырокае разгортванне пазашкольнай работы сярод дзяцей, сістэматычная работа па педпрапагандзе і прыцягненню ўвагі і дапамогі рабочай і калгаснай грамадскасці ў штодзённай рабоце школы.

Шмат школ шырока разгарнулі работу па арганізацыі адпачынку дзяцей як у школе, так і пазашколай: дзіцячыя мастацкія алімпіяды, дзіцячыя спартакіяды, шахматна-шашачныя турніры, выстаўкі дзіцячага малюнка (Менск, Бярэзіна, Узда і інш.), экскурсіі, фізкультурная работа і інш.

Некаторыя школы, асабліва ў гор. Менску, правялі работу сярод бацькоў і шэфствуючых прадпрыемстваў па пытанню выхаваўчай работы і ўдзелу бацькоў у гэтай рабоце (8, 20 школы, завод „Варашылава“, 12 школа, фабрыка „Комунарка“, Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат. 5 школа і інш.).

У гор. Менску створана грамадская інспекцыя садзейнічання міліцыі для барацьбы з дзіцячай безнагляднасцю і дзіцячым хуліганствам.

Аднак, становішча выхаваўчай работы ў большасці школ БССР з'яўляецца нездавальняючай.

Праведзеная інспектарскім апаратам НКА праверка раду ўрокаў паказвае, што вельмі часта настаўнік дабіваецца толькі вузкаадукацыйных мэт, дае толькі фармальныя веды, мала ўвагі зварочваецца на выхаваўчы змест, не заўсёды прадумваюць урокі з пункту гледжання комуністычнай накіраванасці.

У радзе школ аслаблена ўвага да пытанняў інтэрнацыянальнага і антырэлігійнага выхавання ў школе. Мала ўвагі зварочваецца на выпрацоўку соцыялістычных адносін да грамадскай маёмасці і да працы ў школе, да свядомай дысцыпліны і наогул культурных паводзін вучняў у школе і пазашколай.

У радзе школ значна пагоршылася дысцыпліна. Змест пазашкольнай работы ў школе нездавальняе ўзросшых запатрабаванняў вучняў, пазашкольная работа недыферэнцыравана па ўзростах, недастаткова шырока разгортваецца дзіцячая ініцыятыва, творчая самадзейнасць дзяцей.

Назіраецца захапленне знадворнай эфектыўнасцю, захапленне выключна паказной стараной замест глыбокай сістэматычнай работы з дзецьмі.

У радзе раёнаў (Барысаў, Магілеў, Узда, Орша) адсутнічае адказнасць РайАНА, дырэктароў і настаўнікаў за пазашкольную работу і працягваецца тэндэнцыя перадачы кіраўніцтва пазашкольнай работай выключна піонерработнікам.

Дырэктары і загадчыкі школ не адчуваюць адказнасці за становішча выхаваўчай работы ў школе, не кіруюць ёю, не скарыстоўваюць у дастатковай ступені бацькоў, шэфствуючыя прадпрыемствы для канкрэтнай дапамогі школе ў пазашкольнай рабоце.

Інструктары - метадысты пры наведванні школ не ўдзяляюць належнай увагі пастаноўцы выхаваўчай работы ў школе.

Даволі значная частка настаўнікаў мала працуе над павышэннем свайго палітычнага, педагагічнага і агульнакультурнага ўзроўню, што перашкаджае настаўнікам шырока скарыстаць увесь адукацыйны працэс з пункту гледжання комуністычнай накіраванасці.

Настаўнікі не вывучаюць кожнага вучня паасобку, не ведаюць індывідуальных асаблівасцей асобных вучняў, не вывучаюць акружаючага іх асяроддзя, не падыходзяць індывідуальна да кожнага вучня для знішчэння назіраючыхся фактаў недысцыплінаванасці.

У значнай колькасці школ зусім дрэнна пастаўлена выкладанне рысавання, спеваў, фізкультуры, работы адпаведных гурткоў, і на гэтую справу РайАНА і дырэктары школ належнай увагі не зварачваюць, таксама не разгорнуты ў большасці школ тэхгурткі.

Наркомасветы расцэньвае прарывы выхаваўчай работы ў значнай колькасці школ і ў сувязі з гэтым рост недысцыплінаванасці, часамі хуліганства, безнагляднасці, наогул некультурных паводзін вучняў, як вынік нядбайных адносін дырэктароў, загадчыкаў школ і настаўнікаў да важнейшай справы комуністычнага выхавання, у выніку чаго класава варожыя элементы атрымліваюць магчымасць у асобных выпадках паралічваць свой уплыў на частку вучняў і прывіваць ім элементы антыпралетарскай ідэалогіі.

Выходзячы з гэтага **загадваю:**

1. Дырэктарам і загадчыкам школ, а таксама і інструктарам пры праверцы планаў і наведванні ўрокаў асаблівую ўвагу зварачваць на выхаваўчую эфектыўнасць кожнага ўрока, забяспечыўшы вытрыманую комуністычную накіраванасць усёй работы выкладчыка ў класе.

2. Настаўнікі павінны сур'ёзна вывучаць індывідуальныя асаблівасці кожнага вучня, акружаючае яго асяроддзе і ў кожным выпадку парушэння дысцыпліны прымаць прадуманыя педагагічныя меры ўздзейнічання на вучняў. Кожны настаўнік павінен весці выхаваўчую работу і поўнасцю адказваць за паводзіны і дысцыпліну вучняў.

3. Дырэктарам школ прыняць усе захады да ўзмацнення работы класных кіраўнікоў, абавязаўшы іх добра і ўсебакова ведаць кожнага вучня свайго класа, цесна ўвязваць сваю работу з работай у сям'і, наведваць сем'і вучняў і сістэматычна, не менш 1 га разу ў чвэрць, рабіць справаздачы на бацькоўскіх сходах.

4. З мэтай шырокага разгортвання дзіцячай самадзейнасці і, творчай дзіцячай ініцыятывы пры правядзенні ўсіх пазашкольных мерапрыемстваў улічваць узросныя асаблівасці, інтарэсы і патрабаванні дзяцей. Гурткі не павінны быць працягам праграмнай работы, а павінны будавацца з уліку дзіцячых інтарэсаў, на падставе выяўлення і далейшага разгортвання дзіцячай ініцыятывы і развіцця творчай самадзейнасці, пашыраючы іх агульны светапогляд у комуністычным напрамку, арганізаваць іх думкі, пачуцці, настроі, накіроўваючы ўсю гэту работу па шляху ўзмацнення комуністычнага выхавання. Усе гурткі забяспечыць кваліфікаваным кіраўніцтвам.

5. Дырэктарам і загадчыкам школ забяспечыць сістэматычную работу ў школе па антырэлігійнаму і інтэрнацыянальнаму выхаванню як у выкладанні вучэбных прадметаў, так і праз адпаведныя формы пазашкольнай работы і грамадскія арганізацыі (МОПР, СВБ, АСО).

Загадчыкам РайАНА, інструктарам метадыстам,а таксама інспектарам НКА ў час праверкі работы школ зварочваць асаблівую ўвагу на пастаноўку інтэрнацыянальнага і антырэлігійнага выхавання ў школах.

Школьнаму ўпраўленню НКА і НДІ школьнай педагогікі безадкладна распрацаваць метадычныя ўказанні аб інтэрнацыянальным і антырэлігійным выхаванні ў школе.

6. Улічваючы важнасць мастацкага выхавання ва ўсёй вучэбна-выхаваўчай рабоце, усім дырэктарам і загадчыкам школ забяспечыць добраякаснае выкладанне ў школе мастацкіх дысцыплін.

7. Абавязаць кансерваторыю і

музычныя школы арганізоўваць спецыяльныя канцэрты для вучняў школ.

План правядзення канцэртаў прадставіць на зацьверджанне т. Дунцу.

8. Укамплектаваць школьныя бібліятэкі адпаведнай літаратурай для дзяцей. Вылучыць для работы ў школьных бібліятэках кваліфікаваных настаўнікаў. Навакол бібліятэкі разгарнуць педагагічную сістэматычную работу.

Школьнаму і бібліятэчнаму ўпраўленням распрацаваць метадычны ліст аб рабоце школьных бібліятэк. Тэрмін адзін месяц.

9. Уся фізкультурна-масавая самадзейная работа павінна будавацца на аснове адзінай сістэмы „Гатоў да працы і абароны" і дзіцячага значка „БГПА" на базе разгортвання спартыўнай работы і ўсямернага ўмацавання здароў'я дзяцей.

Усім дырэктарам забяспечыць добраякаснае выкладанне фізкультуры ў школе, ахапіць самадзейнай і масава-фізкультурнай работай усіх школьнікаў. Школьнаму ўпраўленню даць на працягу дэкады адпаведную інструкцыю.

10. Разгарнуць у НСШ і СШ абаронную работу, для чаго школьнаму ўпраўленню скласці адпаведную інструкцыю і забяспечыць гурткі адпаведнымі праграмамі, укантактаваўшы гэту работу з ЦС АСО.

11. Разгарнуць у НСШ і СШ работу тэхгурткоў, асаблівую ўвагу звярнуўшы на развіццё дзіцячага вынаходства.

12. Папярэджваю ўсіх дырэктароў і заг. школ, што яны нясуць персанальную адказнасць за выхаваўчую работу ў школе. Катэгарычна забараняецца пераўскладанне адказнасці і кіраўніцтва пазашкольнай работай на піонер работніка.

13. Улічваючы наяўнасць перагібаў у радзе школ па пытанню выключэння вучняў з школы, загадчыкам РайАНА да 15 студзеня 1935 г. праглядзець усе выпадкі выключэння па кожнай школе і ў далейшым не дапускаць выключэння вучняў са школы без згоды РайАНА.

14. Абавязаць дырэктароў і загадчыкаў школ да 10 студзеня 1935 г. распрацаваць канкрэтныя планы выхаваўчай работы ў школах на другое паўгоддзе 1934-35 навучальнага года.

Загадчыкам Гар. і РайАНА зацвердзіць гэтыя планы.

15. Усім загадчыкам Гар. і РайАНА, пад іх персанальную адказнасць, абавязаць інструктароў-метадыстаў пры абследванні школ зварочваць увагу не толькі на пастаноўку вучобы, але і на становішча выхаваўчай работы, як на ўроку, так і ў пазашкольныя гадзіны.

16. Прасіць ЦК ЛКСМБ аб умацаванні піонерработы ў школах.

Улічваючы, што некаторыя важатыя піонерскіх атрадаў не з'яўляюцца прыкладам комуністычных паводзін для вучняў (зрыў піонерскіх заняткаў, непадпарадкаванне рэжыму і да т. п.), паставіць пытанне перад ЦК ЛКСМБ аб дачы належных указанняў раённым кіраўнікам піонерскіх арганізацый.

17. Дырэктарам і загадчыкам школ забяспечыць усе ўмовы настаўнікам для сістэматычнай сталай работы над павышэннем сваёй кваліфікацыі. Аказваць усямерную дапамогу і ажыццяўляць сістэматычны кантроль за павышэннем кваліфікацыі настаўнікаў.

Прасіць ЦК Саюза настаўнікаў пачатковай і сярэдняй школы ўзмацніць работу па палітасвеце настаўнікаў.

18. Усім загадчыкам Гар. і РайАНА з мэтай магчымасці поўнага разгортвання пазашкольнай работы па дагаворанасці з заўкомамі і с/советамі аслабаніць памяшканні школ ад вячэрніх школ, забяспечыўшы апошнія іншымі памяшканнямі, і арганізаваць ва ўсіх школах клубныя пакоі з належным абсталяваннем.

19. Абавязаць заг. Гар. і РайАНА прыняць захады і забяспечыць адчыненне ў Менску, Магілеве, Оршы, Барысаве, Бабруйску, Полацку, Слуцку, Дзержынску, Талачыне клубаў для піянераў і школьнікаў. Наладзіць работу ва ўжо існуючых клубах.

20. Усім загадчыкам Гар. і РайАНА сумесна з профарганізацыямі дабіцца выканання дырэктывы ВЦСПС і ЦСПСБ аб прадстаўленні ў асобныя дні і гадзіны рабочых клубаў для пазашкольнай работы з дзецьмі.

Усім дырэктарам і загадчыкам школ мець чоткі план скарыстання клубаў для пазашкольнай работы.

Аб усіх выпадках недапушчэння дзяцей у клубы даводзіць да ведама Наркамасветы.

21. Пры дапамозе палітаддзелаў МТС дабіцца арганізацыі спецыяльных дзіцячых пакояў у больш буйных калгасах.

22. Школьнаму ўпраўленню разам з Радыёкамітэтам распрацаваць план радыёфікацыі НСШ і СШ.

Школьнаму ўпраўленню забяспечыць сістэматычны кантроль над рэпертуарам дзіцячага радыёвяшчання.

23. Загадчыкам гарана ўсіх прамысловых цэнтраў дабіцца арганізацыі спецыяльных дзённых кіно-сеансаў для школьнікаў з адпаведным рэпертуарам. Ва ўсіх сельскіх раёнах забяспечыць планавае абслугоўванне школ кіно-перасоўкамі.

Белдзяржкіно ў дэкадны тэрмін прадставіць свае канкрэтныя мерапрыемствы па палепшанню кіноабсталявання школ.

24. Школьнаму ўпраўленню да 1/II-35 г. забяспечыць усе гурткі адпаведнымі праграмамі і метадычнымі ўказаннямі.

25. Для наладжвання тэхрапаганды сярод дзяцей склікаць у лютым месяцы нараду дырэктароў па пытанню тэхпрапаганды ў школе.

Усім ДТС распрацаваць канкрэтныя планы арганізацыі і дапамогі тэхгурткам у школе.

26. Школьнаму ўпраўленню правесці ўсебеларускую нараду па пазашкольнай рабоце ў лютым месяцы 1935 г.

27. Школьнаму ўпраўленню і НДІ школьнай педагогікі на працягу месяца забяспечыць падрыхтоўку метадычных лістоў па пытанню выхаваўчай работы.

28. Кіраўніцтву падрыхтоўкі настаўнікаў узмацніць увагу да выкладання спеваў, фізкультуры і малявання ў педтэхнікумах.

Пры выкладанні педагогікі больш увагі ўдзяліць пытанням пазашкольнай работы з дзецьмі.

На курсах па падрыхтоўцы настаўнікаў увесці ў навучальны план пытанні выхаваўчай і пазашкольнай работы.

29. Улічваючы вопыт лепшых школ Менска і інш. гарадоў па педпрапагандзе і работы з шэфствуючымі прадпрыемствамі, усім дырэктарам і заг. школ разгарнуць сістэматычную дыферэнцыраваную работу з бацькамі: індывідуальную педагагічную кансультацыю асобным бацькам

па канкрэтных фактах паводзін яго дзіцяці і як павінны бацькі дапамагчы школе ў выпраўленні дзяцей, за якімі наглядаюцца парушэнні дысцыпліны.

Прыцягнуць увагу шэфствуючых прадпрыемстваў да штодзённай работы школы, практыкаваць канферэнцыі бацькоў па пэўных пытаннях комуністычнага выхавання дзяцей. Па ўзору Менска стварыць у гарадах грамадскую інспекцыю дапамогі міліцыі па барацьбе з дзіцячай безнагляднасцю.

Інстытутам „Выходнага дня“ уключыць у план работы спецыяльныя лекцыі для бацькоў па пытаннях выхавання дзяцей.

Заклікаючы ўсіх настаўнікаў і кіраўнікоў школ да разумення выхаваўчай работы, папярэджваю ўсіх дырэктароў, загадчыкаў школ і настаўнікаў аб тым, што за нядбайныя адносіны да выхаваўчай работы буду прыцягваць да самай сур'ёзнай адказнасці вінаватых, як зрыўшчыкаў важнейшай палітычнай справы, якая пастаўлена пастановамі ЦК ВКП(б) і ўрада перад савецкай школай.

*Народны Камісар Асветы БССР*
*Чэрнушэвіч.*

---

# ПАЛАЖЭННЕ

**Аб парадку адкамандыравання настаўнікаў, якія займаюцца без адрыву ад вытворчасці, у стацыянарныя педагагічныя навучальныя ўстановы**

1. У развіццё пастановы Совета народных камісараў БССР ад 3/III 1934 г. аб завочным навучанні настаўнікаў Народны камісарыят асветы БССР, Народны камісарыят фінансаў БССР, Цэнтральнае праўленне саюза працасветы ўстанаўліваюць з 1934-35 навучальнага года наступны парадак залічэння на старшыя курсы педагагічных навучальных устаноў, з ліку найбольш паспяхова навучаючыхся, без адрыву ад вытворчасці, з захаваннем утрымання па месцу іх работы па ўсіх відах зарплаты:

Адбор на старшыя курсы пед. ВНУ і педтэхнікумаў утвараецца штогодна па завочнаму навучанню не пазней 1-га жніўня, а па вячэрняму педнавучанню — не пазней 15-га ліпеня.

2. Залічэнне ўтвараецца ў педтэхнікумах на 2-гі і 3-ці курсы, а ў пед. ВНУ на 3-ці і 4-ты курсы.

3. Залічэнню падлягаюць асобы, якія паспяхова прапрацавалі ва ўстаноўлены тэрмін праграму 1-га курса педтэхнікума або другога курса пед. ВНУ пры адначасовым здавальняючым выкананні плана навучальнай работы ў школе.

4. Адбор кандыдатур на старшыя курсы педтэхнікумаў або пед. ВНУ ўтварае дырэкцыя навучальных устаноў з ліку камандыраваных РайАНА або ГарАНА і завочнымі сектарамі пед. навучальных устаноў настаўнікаў, сістэматычна павышаючых сваю кваліфікацыю, з улікам: іх паспяховасці якасці вытворчай работы ў школе і ўдзелу ў грамадскай рабоце. Лік вылучаных такім шляхам на старшыя курсы, павінен быць не больш 2 проц. зацверджанага кантынгента прыёму на кожны з гэтых курсаў.

5. Рай. і ГарАНА пачынаючы з 1-га верасня 1934 г. утвараць выплату ўтрымання асобам, выдзяляемых у лік 2-процантнага адбору з адпускаемых па мясцо-

ваму бюджэту сродак. Сумы, якія падлягаюць да аплаты, Рай і ГарАНА пераводзіць пакварта льна ў адпаведныя навучальныя ўстановы.

6. Месячны аклад, які падлягае выплаце асобе, залічанай на старшы курс педтэхнікума або педагагічныя пед. ВНУ, вызначаецца з разліку сярэдняй зарплаты, атрыманай на пасадзе настаўніка за апошнія 6 месяцаў навучальнай яго работы ў школе да часу адкамандыравання на вучобу.

7. Настаўнікі, залічаныя ў лік 2 процантнага адбору, падлягаюць прыёму ў педагагічныя навучальныя ўстановы без прыёмных іспытаў.

*Нам. Наркома фінансаў БССР Еліневскі.*

*Нам. Наркома асветы БССР Лешчынскі.*

*Старшыня ЦП саюза працасветы Грыцкевіч.*

---

## УСІМ Гор. і РайАНА

### Аб ліквідацыі неграматнасці і малаграматнасці сярод дапрызыўнікаў 1913 і 1914 гг. нараджэння

У агульнай барацьбе за граматнасць у нашай краіне задача 100-процантнага ахопу няграматных і малаграматных дапрызыўнікаў набывае асабліва важнае значэнне, бо боездольнасць нашай Чырвонай арміі ў значнай ступені залежыць ад агульнай граматнасці байца.

Між тым вынікі работы за мінулы год з дапрызыўнікамі 1912 г. нараджэння, затым іх прызыў у Чырвоную армію паказалі, што рад РайАНА (Жлобінскі, Б.-Кашалеўскі, Глускі, Любанскі, Лагойскі, Мсціслаўскі і інш.) не справіліся з гэтай важнейшай палітычнай задачай, недаацанілі велізарнага палітычнага значэння справы ліквідацыі няграматнасці і малаграматнасці сярод дапрызыўнікаў.

Галоўнымі прычынамі гэтага прарыву з'яўляюцца: адсутнасць жывога, канкрэтнага, аператыўнага кіраўніцтва гэтым важнейшым участкам, адсутнасць шырокай масавай работы вакол пытання ліквідацыі няграматнасці і малаграматнасці сярод дапрызыўнікаў, адсутнасць штодзённага кантролю над гэтай работай.

Ёсць цэлы рад РайАНА, якія своечасова разгарнулі работу па ліквідацыі няграматнасці і малаграматнасці сярод дапрызыўнікаў, забяспечылі школы дапрызыўнікаў належным кіраўніцтвам і ў выніку далі Чырвонай арміі 100-процантнае граматнае папаўненне (Менскі, Крычаўскі, Быхаўскі, Брагінскі, Магілеўскі).

У гэтым навучальным годзе Гар. і РайАНА павінны дабіцца такога становішча ў справе ліквідацыі няграматнасці і малаграматнасці сярод дапрызыўнікаў, каб не дапускаць паўтарэння асобных ганебных фактаў паступлення ў Чырвоную армію няграматных і малаграматных дапрызыўнікаў.

Лічачы работу па ліквідацыі няграматнасці і малаграматнасці сярод дапрызыўнікаў як адну з важнейшых задач РайАНА і школ, НКА прапануе:

1. Зараз-жа разам з райваенкаматамі правесці поўны ўлік дапрызыўнікаў 1913 і 1914 гг. нараджэння, сіламі настаўнікаў устанавіць ступень граматнасці кожнага дапрызыўніка і забяспечыць правільнае камплекта-

ванне школ і груп у залежнасці ад граматнасці.

У гэтым годзе патрэбна ўключыць у сетку вячэрніх школ дапрызыўнікаў нараджэння 1914 г., якія павінны прызывацца восеню 1936 г., таму што патрабаванне да граматнасці прызыўнікаў з кожным годам узрастае.

2. Забяспечыць 100-працантны ахоп вучобай і пагалоўнае наведванне школ няграматнымі і малаграматнымі дапрызыўнікамі 1913 і 1914 гг. нараджэння Выдзеліць лепшых выкладчыкаў-ударнікаў, забяспечыць высокую якасць вучэбна-выхаваўчай работы. На працягу ўсяго навучальнага года не дапускаць ні аднаго зрыву заняткаў, забяспечыўшы поўную прапрацоўку праграмы пачатковай школы дарослых да I/V 1935 г.

**Увага:** Там, дзе немагчыма стварыць спецыяльныя групы прызыўнікаў па ліквідацыі няграматнасці і малаграматнасці з прычыны недастатковай колькасці прызыўнікаў, апошнія павінны займацца ў агульных групах пачатковай школы для дарослых, прычым дапрызыўнікам павінна быць звернута асаблівая ўвага.

3. Поўнасцю забяспечыць школу прызыўнікаў неабходнымі вучэбнымі прыладамі, сшыткамі, памяшканнем.

4. Пры арганізацыі групы дапрызыўнікаў абавязкова ўлічыць спецыфічнасць вытворчасці, у якім працуе дапрызыўнік, для чаго паставіць пытанне перад гаспадарчымі арганізацыямі, праўленнямі калгасаў, старшынямі сельсоветаў і т. д. аб забеспячэнні бесперабойнай вучобы дапрызыўнікаў на ўвесь перыяд навучання, аб замацаванні іх за адной зменай у вытворчасці, аб звальненні ад доўгіх камандыровак або ад заданняў, якія перашкаджаюць вучобе.

5. Сумесна з грамадскімі арганізацыямі, якія прымаюць удзел у ліквідацыі няграматнасці і малаграматнасці сярод дапрызыўнікаў, стварыць прэміяльны фонд для прэміравання лепшых настаўнікаў за ўзорную пастаноўку вучобы дапрызыўнікаў 1913 і 1914 г. г. нараджэння, уздзейнічаючы на зрыўшчыкаў, бяздзейнічаючых і зрываючых работу па навучанню дапрызыўнікаў. НКА папярэджвае загадчыкаў РайАНА, што ў гэтай справе не можа быць спасылання на аб'ектыўныя прычыны. За зрыў і недахопы ў працы з дапрызыўнікамі адказнасць нясе асабіста загадчык РайАНА.

6. Сумесна з Райваенкаматам не пазней 26/XII г г. склікаць раённыя злёты няграматных і малаграматных дапрызыўнікаў 1913 і 1914 гг. нараджэння, дзе паставіць пытанне аб ліквідацыі няграматнасці і малаграматнасці сярод дапрызыўнікаў.

7. Усю працу праводзіць на аснове соцспаборніцтва і ўдарніцтва, прымяняючы чырвоную і чорную дошку, асвятляючы дадатныя і адмоўныя бакі працы па ліквідацыі няграматнасці і малаграматнасці ў мясцовым і цэнтральным друку.

8. Пад асабістую адказнасць загадчыкаў Гар. і РайАНА 1-га чысла кожнага месяца прысылаць у НКА, Аддзел школ і курсаў дарослых аператыўную інфармацыю і зводкі за подпісам загадчыка Гар. і РайАНА і Райваенкамата аб ахопе навучаннем няграматных і малаграматных дапрызыўнікаў 1913 і 1914 гг нараджэння.

*Народны Камісар Асветы БССР*
*ЧЭРНУШЭВІЧ*

*Заг. аддзела школ і курсаў дарослых НКА (БССР) ЛІЎШЫЦ.*

---

# ЗАГАД № 68

## Па Народнаму камісарыяту асветы БССР

**Менск, 15/1 1935 г.**

**Аб становішчы бібліятэчнай работы ў Крупскім раёне**

Заслухаўшы інфармацыю начальніка Бібліятэчнага ўпраўлення аб выніках праверкі становішча масавых бібліятэк у Крупскім раёне і пацвердзіўшыхся фактах скажэння лініі партыі ў пытанні із'яцця літаратуры ў крупскай і халопеніцкай бібліятэках (ускрытых інспектарам НКА т. Казловым і асветленых у арт. газеты „Звязда", ад 26-XII, пад назвай „У Халопенічах творы Леніна, Сталіна пад забаронай"), загадваю:

1. Заг. Крупскага РайАНА тав. Баканава за страту класавай пільнасці і бяздзейнасць, прывёўшую да развалу бібліятэчнай работы ў раёне, з работы загадчыка АНА зняць і накіраваць настаўнікам у пачатковую школу.

2. Прыняць да ведама паведамленне нач. Бібліятэчнага ўпраўлення і Крупскага бюро РК КП(б)Б аб зняцці з работы бібліятэкараў крупскага РДСК і халопеніцкай хаты-чытальні і ўмацаванні гэтых бібліятэк іншымі работнікамі, аб прыцягненні вінаватых работнікаў да адказнасці, а таксама аб практычных мерапрыемствах па ўмацаванню бібліятэчнай работы ў раёне.

3. Начальніку Бібліятэчнага ўпраўлення т. Багуслаўскаму тэрмінова ўкамплектаваць навейшай актуальнай літаратурай з дублетных фондаў Дзяржаўнай бібліятэкі, бібліятэкі крупскага РДСК і халопеніцкай хаты-чытальні і накіраваць кваліфікаванага бібліятэчнага работніка для прывядзення крупскай бібліятэкі ў парадак.

4. Фінчастцы НКА перавесці цэнтральнаму бібкалектару 1000 руб. з цэнтралізаваных сум на бібліятэчную справу для папаўнення літаратурай крупскай бібліятэкі.

5. Папярэдзіць усіх загадчы каў Рай. і Гарана і бібліятэчных работнікаў, што за бяздзейнасць у кіраўніцтве, ігнараванне дырэктыў партыі і ўрада аб бібліятэчнай справе, яны будуць прыцягвацца НКА да суровай адказнасці, памятаючы, што бібліятэка з'яўляецца магутным сродкам комуністычнага выхавання працоўных і класавы вораг будзе імкнуцца скарыстаць у сваіх мэтах усякае паслабленне класавай пільнасці на гэтым важным участку народнай асветы.

6. Пастанову апублікаваць у друку.

*Народны Камісар Асветы БССР*
*ЧЭРНУШЭВІЧ.*

# ЗРОБІМ БІБЛІЯТЭКУ АКТЫЎНЫМ УДЗЕЛЬНІКАМ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА

**„Бібліятэчная справа... больш усяго патрабуе выкліку спаборніцтва паміж асобнымі губернямі, групамі, чытачамі і інш".**

**(Ленін).**

Бібліятэка павінна стаць адным з цэнтраў культурна-палітычнага выхавання рабочых і калгасных мас, актыўна садзейнічаць мабілізацыі працоўных на барацьбу за выкананне задач, пастаўленых XVII з'ездам ВКП(б).

Палепшанне бібліятэчнай справы, павышэнне якасці абслугоўвання працоўных кнігай з'яўляецца справай, перш за ўсё, культурных работнікаў, работнікаў бібліятэк.

У мэтах пад'ёму бібліятэчнай справы на вышэйшую ступень у БССР, згодна пастановы ЦВК і СНКБ, праводзіцца **конкурс-спаборніцтва на лепшую бібліятэку, на лепшага бібліятэкара.**

Конкурс-спаборніцтва павінен садзейнічаць хутчэйшаму выкананню пастаноў ЦВК СССР і ЦВК і СНК БССР аб бібліятэчнай справе і прыцягненню ўвагі шырокай грамадскасці да справы ператварэння бібліятэк у сапраўдныя ачагі соцыялістычнай культуры.

**Шырэй соцыялістычнае спаборніцтва на бібліятэчным фронце!**

**Ні адной бібліятэкі, ні аднаго бібліятэкара ўне конкурса-спаборніцтва!**

## УМОВЫ КОНКУРСА-СПАБОРНІЦТВА НА ЛЕПШУЮ БІБЛЯТЭКУ

1. Конкурс-спаборніцтва пачынаецца з моманту атрымання на мясцах умоў конкурса і канчаецца з падвядзеннем вынікаў конкурса к 27/III-35 г. — к гадавіне пастановы ЦВК СССР „Аб бібліятэчнай справе ў СССР".

2. У конкурсе прымаюць удзел усе масавыя бібліятэкі як сістэмы АНА: гарадскія, раённыя, бібліятэкі МТС, калгасаў, райДСК, сельДСК і інш., так і профсаюзныя: на вытворчасці, соўгасныя, клубныя і інш.; у конкурсе ўдзельнічаюць таксама раённыя і гарадскія аддзелы нарасветы і профсаюзныя арганізацыі.

3. Паказаныя арганізацыі і бібліятэкі, уключаючыся ў конкурс, дасылаюць у Рэспубліканскую камісію пры Наркамасвеце пастанову альбо паведамленне аб уключэнні ў спаборніцтва і свае канкрэтныя абавязацельствы.

4. У далейшым два разы ў месяц прадстаўляюцца ў Рэспубліканскую конкурсную камісію інфармацыі аб ходзе работы.

5. Да 20/III прадстаўляецца поўная справаздача аб рабоце па выкананню сваіх абавязацельстваў. Справаздача павінна быць заверана грамадскімі і савецкімі арганізацыямі, прапрацована на шырокіх сходах рабочых прадпрыемстваў, калгаснікаў, рабочых соўгасаў. Да яе дадаюцца водзывы прадпрыемстваў, калгасаў і соўгасаў аб рабоце данай бібліятэкі.

6. Наркамасветы і ЦСПСБ устаноўлены прэміі для бібліятэк і асобных бібліятэчных работнікаў:

а) для бібліятэк

першая . . 2 прэміі па 3000 руб.
другая . . 3 прэміі па 2000 руб.
трэцяя . . 5 прэмій па 1000 руб.

б) для бібліятэчных работнікаў

першая . . 3 прэміі па 300 руб.
другая . . 7 прэмій па 200 руб.
трэцяя . . 15 прэмій па 100 руб.

в) для бібліятэчнага актыва

першая . . 5 прэмій па 150 руб.
другая . . 4 прэміі па 100 руб.
трэцяя . . 10 прэмій па 75 руб.

7. Рэспубліканская конкурсная камісія назначаецца з прадстаўнікоў наступных арганізацый: Бібліятэчнага ўпраўлення НКА, ЦК ЛКСМБ, ЦСПСБ, ЦП Саюза палітасветустаноў, Палітсектара НКЗ і Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна.

## ПАКАЗЧЫКІ КОНКУРСА-СПАБОРНІЦТВА ДЛЯ АДДЗЕЛАЎ НАРАСВЕТЫ І ПРОФСАЮЗНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ

1. Правесці арганізацыю новых бібліятэк пры МТС, соўгасах, хатах-чытальнях. Арганізаваць кніжныя паліцы для дзяцей пры ўсіх масавых бібліятэках.

2. Правесці рэгістрацыю бібліятэк усіх ведамстваў і арганізацый у раёне.

3. Забяспечыць аператыўнае кіраўніцтва бібліятэчнай сеткай у горадзе і раёне. Арганізаваць работу раённых метадычных нарад бібліятэчных работнікаў, склікаючы іх не радзей аднаго разу ў месяц.

4. Правесці праверку кваліфікацыі бібліятэчных работнікаў праз раённую кваліфікацыйную камісію (люты м-ц).

5. Забяспечыць рэгулярны водпуск сродкаў па бюджэту бібліятэкі.

6. Забяспечыць бібліятэкі лепшымі памяшканнямі і як неабходны мінімум мець два пакоі: абанімент і чытальную залю.

7. Правесці поўны рамонт бібліятэчных памяшканняў.

8. Абсталяваць бібліятэку неабходнай мэбляй (сталы, стуллі, кніжныя паліцы, шафы, вітрыны, даведачныя і выставачныя дошкі і т. д.).

9. Поўнасцю забяспечыць бібліятэкі апалам.

10. Праводзіць сістэматычны кантроль за ходам камплектавання. Заключыць умовы на камплектаванне з бібкалектарам.

11. Правесці мерапрыемствы, забяспечваючыя ахову кніг у бібліятэках і зварот чытачамі кніг пры выбыцці з горада альбо раёна.

12. Выканаць пастанову СНК БССР, НКА і Саюза працасветы аб дыферэнцыраванай аплаце бібліятэчных работнікаў.

## ПАКАЗЧЫКІ ДЛЯ БІБЛІЯТЭК

1. Прывесці ў парадак кніжныя фонды бібліятэкі, правесці поўную інвентарызацыю, апрацоўку кніг, састаўленне каталагаў.

2. Шляхам адпаведных мерапрыемстваў, стварыць утульнасць у бібліятэцы, забяспечыўшы ўмовы чытачу для паглыбленай работы з кнігай.

3. Павялічыць асноўны, перасовачны і дзіцячы фонды бібліятэкі за лік поўнага скарыстання бюджэтных асігнаванняў, прыцягнення сродкаў грамадскасці і сістэматычнага збору кніг сярод насельніцтва.

4. Весці планавае камплектаванне бібліятэкі, папоўніць кніжны фонд творамі Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна, грамадска-палітычнай, вытворча-тэхнічнай, прыродазнаўча-навуковай і мастацкай літаратурай з улікам роднай мовы насельніцтва.

5. Забяспечыць поўную захаванасць кніжных фондаў бібліятэкі. Ліквідаваць запазычанасць кніг за чытачамі. Весці работу па выхаванню сярод чытачоў адказнасці за беражлівыя адносіны да кнігі, як социялістычнай маёмасці (гутаркі, канферэнцыі, азнаямленне чытачоў з існуючымі пастановамі і т. д.).

6. Арганізаваць актыў чытачоў, прыцягваючы яго да выканання плана работы бібліятэкі шляхам социялістычных абавязацельстваў, дабівацца ўдзелу ў рабоце бібліятэкі кожнага актывіста-чытача.

7. Павялічыць прасоўванне і зварот кніг Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна, шляхам выставак кніг на асобныя тэмы, арганізацыі кансультацыі пры прапрацоўцы кніг. Разгарнуць работу ў дапамогу сеці партасветы і профвучобы, вядучы падбор літаратуры па праграмах, абслугоўванне перасоўкамі, лекцыі, кансультацыі для чытачоў, калектыўную прапрацоўку асобных твораў і т. д.

8. Арганізаваць актыўную работу з вытворча-тэхнічнай і агразоатэхнічнай кнігай у дапамогу павышэнню вытворчай актыўнасці рабочых і калгаснікаў, абслужыць перасоўкамі адпаведнай літаратуры агратэхмінімум, прыцягнуць спецыялістаў аграномаў, інжынераў, тэхнікаў для кансультацыі пры прапрацоўцы кніг чытачамі, арганізаваць конкурс на лепшую прапрацоўку агра-тэх. ці вытворча-тэхнічнай кнігі, вечары тэхнічнай кнігі, лекцыі і т. д. Ахапіць вытворчай кнігай 100 проц. брыгадзіраў.

9. Весці масавую работу па даведзенню да мас пастаноў партыі і ўрада шляхам чытак, гутарак, плакатаў.

10 Праводзіць канферэнцыі чытачоў, вечары рабочай крытыкі з разборам асобных твораў мастацкай літаратуры, скарыстоўваючы матэрыялы з'ездаў пісьменнікаў. Для гарадскіх і раённых бібліятэк—як абавязак —удзел у літпаходзе па аўладанню калгаснікамі літмінімумам.

11. Арганізаваць работу бібліятэкі ў дапамогу самаадукацыі рабочых, калгаснікаў, кіраўніцтва чытаннем, выяўленне займаючыхся самаадукацыяй, арганізаваць кансультацыі, а таксама абслугоўванне перасоўкамі кніг, чыткамі ў голас навучаючыхся ў школах дарослых.

12. Арганізаваць перасовачны фонд для абслугоўвання перасоўкамі калгасаў і прадпрыемстваў. Павялічыць колькасць перасовак і кніганош у калгасныя брыгады, цэхі, жакты і інтэрнаты.

13. Весці сістэматычную работу з культарміяй, перасоўшчыкамі-кіганошамі шляхам інструктажа, правядзення каротка-тэрміновых курсаў-семінараў, злётаў і нарад, арганізацыі соцспаборніцтва паміж імі на лепшую пастаноўку работы перасоўкі і абслугоўвання на-ламу лепшых ударнікаў калгасаў і прадпрыемстваў.

14. Прыцягнуць да выканання практычных задач бібліятэчнай справы ўвагу шырокай грамадскасці: профсаюзных арганізацый, комсамола, культсек-

цый с.-советаў шляхам заслухоўвання справаздач аб становішчы бібліятэчнай работы, прымацавання да бібліятэкі актывістаў ад гэтых арганізацый у дапамогу бібліятэцы.

15. Арганізаваць павышэнне кваліфікацыі кожнага бібліятэчнага работніка, удзел у рабоце палітгурткоў, метадычных нарад бібліятэкараў, прапрацоўку матэрыялаў часопіса „Красный библиотекарь", бібліяграфічнага бюлетэня выдання Дзяржаўнай бібліятэкі і Бібліяграфічнага інстытута імя В. І. Леніна, удзельнічаць у соцспаборніцтве з адною з бібліятэк.

## БІБЛІЯТЭЧНАЕ ЎПРАЎЛЕННЕ НКА АРГАНІЗУЕ Ў ЧАС КОНКУРСА

1. Забеспячэнне бібліятэк праз цэнтральны калектар прыладамі бібліятэчнай тэхнікі.

2. Вядзе падбор і падрыхтоўку кадраў бібліятэчных работнікаў і бібліятэчных інспектароў пры. Гор і РайАНА.

3 Арганізуе праз метадычны сектар Дзяржаўнай бібліятэкі імя В. І. Леніна кансультацыі для павышаючых сваю кваліфікацыю бібліятэчных работнікаў і забеспячэнне метадычнымі ўказаннямі па запытанням бібліятэкараў.

4. Аказвае дапамогу бібліятэкам як існуючых, так і ўноў арганізуемых у справе іх камплектавання літаратурай.

5. Праводзіць выезды на месцы для выяўлення ступені ўдзелу бібліятэк у конкурсе і аказання ім практычнай дапамогі.

*Народны Камісарыят*
*Асветы БССР*

*Цэнтральны Совет*
*Профсаюзаў БССР*

---

Адказны рэдактар Багуслаўскі

---

## АД РЭДАКЦЫІ

У Бюлетэні № 4 на ліцэвой старонцы ўкралася памылка. Замест „Менск 15 лістапада 1934 г." неабходна чытаць „Менск 15 студзеня 1935 г.".

350

---

Горліт № 499. 1 друк. аркуш. 8000 экз.
Друкарня „Комінтэрн". Гор. Віцебск. Зак. № 267.